"БЕЛАРУСКІ ГОЛАС"
Выдае Фэдэрацыя Вольн. Беларускіх Журналістаў

"BYELORUSSIAN VOICE"
24 Tarlton Rd., Toronto, Canada M5P 2M4
Tel.: 488-0048

Рэдагуе: Радкалегія
Артыкулы падпісаныя прозьвішчам, ініцыяламі ці псэўданімам аўтара, не заўсёды выказваюць погляды Радакцыі.

## АПОШНЯЯ РАБАЎЛАСЬНІЦКАЯ ІМПЭРЫЯ ТРАШЧЫЦЬ!

Хваля вызвольных рухаў паняволеных народаў Сярэдня Ўсходняй Эўропы, скінуўшых, ці скідаючых Камуна-фашыстоўскае ярмо, дакацілася ўжо і цэнтру тыраніі: Савецкага Саюзу. Крывавыя баі з акупантамі ў Аээрбейджане, Арменіі, Узьбекістане, соткі забітых, тысячы параненых, вось вынік збройнай разправы акупацыйных войскаў Маскоўскага гаспадара, суміраючых імкненьне народаў да незалежнасьці, ды правакацыйна нацковуючы асобныя народы, адзін супраць аднога, потым стаючы ў позе чуць ці ня іхных «абаронцаў».

Балтыйскія Распублікі сваімі савецкімі Парлямэнтамі, абвесьцілі аб непраўнасьці захопу гэтых Распублік СССР у згодзе з Гітлярам і дамагаюцца скасаваць гэтую іхную прымусовую прыналежнасьць. Змушаныя штораз паглыбляючымся эканамічным крызысам, з якога ўжо няма выхаду, без зьмены пануючай Камуністычнай сыстэмы, партыйнае кіраўніцтва, ачоленае Гарбачовым прабуе выхаду з яго, не парушаючы панаваньне свае партыі і яе нежыцьцёвых прынцыпаў, пазбавіўшых народ уключна з сялянамі, прыватнай уласнасьці /што і давяло да сьмяртэльнага крызысу імпэрыю/. Адсюль гэтак званая «перастройка» — папушчэньне зацісьненай у кагэбістоўскіх клешчах гарлянкі народу, даўшае магчымасьць яму крычаць аб гэтым, хоць і за гэтае часта атрымоўвае паліцыйна-кагэбістоўскія гумы, арышты і пені. Пэўнае-ж, што гэтае крызыс супыніць не магло, але яшчэ далей яго паглыбіла. І вось тады Гарбачоў, які яшчэ нядаўна крычаў, што ён недапусьціць шматпартыйнай сыстэмы, раптам пагадзіўся выкінуць з Савецкай Канстытуцыі абзац 6-ы, гаворачы аб непадзельным панаваньні Кампартыі ў СССР. Аднак да завяршэньня гэтае пастановы яшчэ далёка, бо законам яна можа стацца па зацьвярджэньні яе Камуністычным Кангрэсам, які мае адбыцца недзе летам, а значыць па заканчэньні ўсіх выбараў ў Распубліканскія і мясцовыя Саветы, якія будуць праводжаныя цяперашнім Камуністычным кіраўніцтвам Распублік і на Беларусі пануючай там Камуна-фашыстоўскай клікай Сакалова. Дый само скасаваньне абзацу ў Канстытуцыі яшчэ ня зьменіць істоту Камуністычнай дыктатуры. Той абзац Шосты быў унесяны да Канстытуцыі пры Бражнёве, а Ленін і Сталін, улажыўшыя мільёны і дзесяткі мільёнаў ў магілы нявінных людзей, абыходзіліся і без абзацу 6-га ў Канстытуцыі.

Усё будзе залежыць ад прабудженьня і сьведамасьці народных гушчаў. А гэтае прабуджэньне ідзе нераўнамерна і калі горад Масква і яе жыхары ў авангардзе барацьбітоў за дэмакратыю і вызваленьне ад таталітарнага Камуністычнага рэжыму, як і ў Балтыйскіх распубліках, дык у гэткай Беларускай Распубліцы, якая ахоплівае Цантральную частку этнаграфічных тэрыторыяў зьдзесяткаванага Беларускага народу, які ў асноўным так забіты 70-гадовым панаваньнем Камуністычных тыранаў, што ў бальшыні даведзены да нясьведамай этнаграфічнай масы, амаль забітай нацыянальна, з адабранай ад яго роднай мовай, культурай, дзе пануе Камуністычны фашызм амаль Сталінскіх часоў. Як падае Сав. прэса, на Сельскіх і Раённых выбарчых сходах пануе апатыя. Людзі ня хочуць браць у іх удзел: тут палітыку ня робіць, а ў гары! На 15 сходах насілу выбрана /знойдзена/ па аднаму кандыдату на выбарчую адзінку. А там, дзе актыўнейшыя асяродкі, дык камуністычныя спрыцяры так маніпулявалі, каб іншых кандыдатаў недапусьціць, балазе ў новы Выбарчы Закон БССР яны ўнеслі пункт, што выбары маюць весьціся пры «любом колічэстве» кандыдатаў, гэта значыць: важныя і пры адным кандыдаце. Як падала Ангельская прэса са слоў маладога Мянчука ў Маскве, ён прыехаў з Менску за 400 кілямэтраў ад Масквы, спэцыяльна каб сваімі вачыма пераканацца, што ў СССР магчымыя дэманстрацыі процiў Камуністычнага таталітарызму. Такое вось становішча на бацькаўшчыне! І таму выглядае, што не абапіраючыся на дапамогу братняй Літвы і дэмакратычных колаў Масквы, сяньня пакульшто няма мовы, каб Беларусы самыя дабіліся сувэрэннасьці сваіх нават Цантральных земляў ўваходзячых у БССР, не гаворачы ўжо аб Ўсходняй Беларусі зрасейшчанай амаль да званьня.

**Я. Галейка**

## СТАЛІНІЗМ НЕ СКАНАЎ!




## У ХАЎТУРНЫ ДЗЕНЬ ЖАЛОБЫ «ДЗЯДЫ» НА МЕЙСЦЫ ШМАТТЫСЯЧНЫХ ЗАБОЙСТВАЎ НА МАГІЛЁЎСКІХ «КАР'ЕРАХ»

## ПАДМАГІЛЁЎСКІЯ КАР'ЕРЫ

«Літаратура і Мастацтва» нядаўна зьмясьціла двухбачынны рапарт аб трэцім з найжахлівейшых мейсц масавага нішчэньня Беларускага народу. Пасьля вядомай даўно Катыні, падменскіх Курапатаў, цяпер «Кар'еры» Магілёва!

Людзей мардавалі масава. Сьведкі апавядаюць, што вазілі людзей ў «кар'еры», адкуль раньней здабывалі пясок для будовы, па дзесятку цягарных аўтаў за адзін раз. Зьмешчана сьведчаньні дзесяткаў сьведкаў аб жахлівых сцэнах масавых мардэрстваў, аб тым як пасьля ўжо ў пазьнейшыя часы пры дапамозе некіх «вайскоўцаў» гэтая пануючая банда злачынцаў ходалася зацерці сьляды народазабойства, вывозячы некуды знойдзеныя людзьмі пры капаньні пяску астаткі памардаваных. Але ўкрыць гэтага сяньняшнім супольнікам энкавудыстоўскіх злачынцаў было немагчыма. Косьці ахвяр перамешаныя з зямлёй, залягаюць аграмадныя прасторы.

Як і ў выпадку «Курапат», абураны народ дамагаўся дасьледаваньня. А як жа, вызначана адумысную Камісыю яшчэ ў 1987 годзе, якая абмяжавалася да дасьледаваньня лапіка кар'ераў: 5 на 6 мэтраў, дзе знойдзена мноства касьцей і чарапоў. Шкілетты ляжалі ў некалькі пластоў. *Налічана астаткі 102 чалавек.* На гэтым дасьледваньні былі прыпыненыя!

Летась на «Дзяды» грамадзкасьць Магілёва адзначыла памяць памардаваных Жалобным Памінальным «Рэквіюм». На хаўтурным Вечу прамаўляў Правадыр «Талакі» — С. Вітушка. Па ініцыятыве «Мартыралёга Беларусі» на мейсцы масавых мардэрстваў, быў пастаўлены 6-цімэтровы Крыж. Сярод выступіўшых на Хаўтурах быў пісьменьнік А. Вольскі, ахвяры Сталінскіх канцлягероў: І. Міраненка, В. Чашэй, Я. Халіпаў. Сьведкі: — відавочцы-сьведкі мардэрстваў: Чыж, Чамагуд і іншыя.

### БЕЛАРУСЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ ПРЫ НОВЫХ АБСТАВІНАХ

Развал камунізму ў Польшчы і прыход «Салідарнасьці» да ўлады застаў фактычна Беларусаў у Беласточчыне зьнячэўку, тым больш, што на чале адзінага падапечнага ня так кампартыі як мяйсцовай агэнцыі Бязьпекі /Міністэрства Унутраных Спраў/ стаялі сябры Партыі і не падумвалі загадзя памяркаваць аб прышласьці. Толькі калі зьмены сталіся рэчаістасьцю і БГКТ і «Ніва» апынуліся перад фактам, што больш ня будуць аплачваныя, а прыдзецца арганізаваць свае сяродкі, абапертыя на сваіх суродзічах, разгарнулася спрэчка, як гэтае зрабіць. Паўстаў Камітэт Беларускага Грамадзкага Руху «Грамада», праграма якога прадбачыць аб'еднаньне ўсіх Беларусаў Беласточчыны ў нешта падобнае да існуючых у СССР «Народных Франтоў, у рамах якіх згруджаюцца рознапаглядовыя арганізацыі і партыі для здабыцьця галоўных мэт народу. Супраць гэтага выступаюць некаторыя былыя /а мо' і цяперашнія/ Камуністы, якія бачаць ратунак у тварэньні партыяў, перадусім «сацыялістычнай» /пад гэтым імем любяць цяпер перапранацца Камуністычныя партыі/, закідваючы, што такая «Грамада» пахне чуць ці не таталізмам, «антыдэмакратызмам» і нават «нацыяналізмам», бо ў праэкце Статуту стаіць недапушчэньне да выпрадажы зямлі Беларускіх сялян наежджым з Польшчы каляністам-асаднікам, як рабілі апошнія гады Камуністычныя ўлады, ўзводзячы гэтак званую «Ўсходнюю Сьцяну» ад Беларускай ССР.

Без некага Супольнага Фронту, кардынацыйных дзеяў усіх Беларускіх арганізацыяў і партыяў калі яны паўстануць, становішча Беларускай Беласточчыны ня толькі не палепшае, але пагражае поўным нацыянальным занепадам, тым больш што Беластоцкія колы «Салідарнасьці» апанаваныя тымі-ж Польскімі нацыяналістамі, якія ўжо сяньня прабуюць пад рознымі прычэпкамі зьнішчыць і тыя кволыя праявы Беларускага жыцьця, каторае існавала нават пры «апецы» Камуністаў.

### ЯШЧЭ АДНА НЕБЯЗЬПЕКА

Дэлегацыя Украінска-Канадыйскіх Прамыслоўцаў, якая суправаджала Прам'ера Малруні ў ягонай паездцы да СССР, сьцьвердзіла, пабываўшы ў Чарнабылі, што Савецкія дзейнікі фактычна ня ведаюць, як захоўваць на далейшы час радыяактыўныя пласты зямлі, згорненыя з паверхні, пасьля выбуху. Разам з дажджамі і вільгацяй, радыяактыўныя элементы пранікаюць глыбей у грунт і грунтовы воды, а адтуль у рэчкі і Прыпяць, нясучы атруту аж у мора. Пазатым гэтыя мейсцы пагражаюць выбухам сабраных радыеактыўных матэрыялаў, што можа прывесьці да новых трагэдыяў.

### НОВЫ СПОСАБ

У сувязі з барацбой за паварот Беларускае мовы і культуры Беларускаму народу, Беларускія патрыятычныя колы і арганізацыі дабіваюцца часам хвармальнага прызнаньня гэтага, але ў гэткіх хвормах, што ўсе гэтыя хвармальна прызнаныя пастановы, законы і разпарадкі, на справе нічуць не палепшваюць становішча.

Вось прыклад: Распубліканскае Радыё пачала надаваць вельмі цікавыя Праграмы з Беларускага Фальклеру. Прапаганда Беларускага фальклёру вельмі патрэбна сяньня, калі дэнацыяналізацыйная палітыка за апошнія дзесяцігодзі амаль ня зьнішчыла ўсю Беларускую культуру і самую мову. Але аказваецца гэтыя Беларускія радыёперадачы надаюцца ад 8-мі да 10 гадзін раніцы, гэта значыць у гадзіны, калі вясковыя хаты абсалютна пустыя, ды ня лепш і ў горадзе, бо людзі на працы, дзеці ў школах.

### АБ БЕЛАРУСІ У ІНШЫХ

У Расейскім штодзеньніку Нью-Ёрку «Новае Русское Слова» зьявіўся інфармацыйны артыкул аб Беларускай справе /«Беларуская Незалежнасьць»/ Расьціслава Завістовіча, якога зацемкі на Беларускія тэмы зьяўляюцца і ў іншых зарубежных Расейскіх выданьнях. Зьмешчаны ў «НРС» артыкул падае галоўныя даныя аб Беларусі і яе цяперашнім становішчы. На жаль, падаючы аб нішчэньні сав. акупантам Беларускага народу ён падаў напрыклад ня поўную лічбу ахвяр вывазу з межаў Беларусі насельніцтва, паклікаючыся на сав. часапіс «Літаратура і Мастацтва» /1 мільён 629 тысяч/, што складала ў тыя гады /1930-ыя/ амаль 1/з насельніцтва БССР. Аднак справа ў тым, аб чым Менскай прэсе ня можна гаварыць, што да гэтае лічбы трэ' далучыць яшчэ вывезеных з Усходняй Беларусі /Смаленшчына, Браншчына і Захадняя Пскоўшчына/, якая была ўлучаная да РСФСР і адкуль паводле сав. статыстыцы вывезена да 52% насельніцтва вёскі, а толькі ў аднэй Смаленшчыне зьліквідавана цалкам 1900 вёсак. Гэта мінімум каля мільёну аўтахтоннага Беларускага насельніцтва. На заканчэньне поўнай каляніізацыі адарванага ад Беларусі краю, туды цяпер навозіцца Татараў, Месхаў і іншых выгнанцаў калісьці паселяных у Азіяцкіх Распубліках,. а па забурэньнях процiў іх мяйсцовага насельніцтва перакіданых для дапамогі астатковай русыфікацыі Беларусі.

### СМАЛЕНСК — СТАЛІЦА ЎСХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

/Ізвестія/ Смаленшчына славілася мёдам. Нават гэрб Раслаўля складаўся з двох вульляў. А цяпер толькі 40 кіляграмаў дзенна мёду атрымоўвае горад. У горадзе зьнішчаны ўсе рамеслы, якія існавалі для тысячы гадоў. Было ў Смаленску 254 гарбавальніка авечых скураў. Былі кажухі. Цяпер ня стала ані воднага: зьнішчылі! Спрабавалі нядаўна промысл аднавіць — забаранілі! Забаранілі мулярства, дойлідзтва, бандарства /вырабляньне кублаў і кубельцаў/, вышыванкі, гаптаваньне...

### «БЕЛАУРУСІЗАЦЫЯ» ШКОЛЬНІЦТВА ПА КАМУНІСТЫЧНАМУ

**Берасьце:** ... «ніякіх практычных захадаў па адкрыцьці Беларускіх школ: па ранейшаму адзін адзінюсенькі беларускі клас, створаны намаганьнямі інтэлігэнцыі, адна Беларуская група ў дзіцячым садзе, сабраная выхавацелькай В. Куксай. /ЛіМ/.

## ЗВАРОТ БЕЛАРУСКА-УКРАІНСКАГА КАМІТЭТУ ПА ПАДШЫКАВАНЬНІ НАВУКОВАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ «ПАДЗЕІ 1917—1953 ГАДОЎ НА БЕЛАРУСІ І УКРАІНЕ»

/УЦІС» Таталістычны рэжым, які нядаўна панаваў на абшарах СССР адбіваўся ня толькі на палітыцы, эканоміцы, культуры народаў, але і на становішчы гістарычнае навукі. Сяньня, калі надыйшла новая хваля нацыянальнага адраджэньня і выявілася немагчымасьць і нежаданьне ахвіцыяльнай гістарычнай навукі вызваліцца з путаў ідэалягічных догмаў, падзеі 1917—1953 гг. высьвятляюцца ў скалечанаму выглядзе. Матэрыялы і дакуманты нацыянальна-вызвольных рухаў перахоўваюцца ў спэц-сховішчах. Пад фактычнай забаронай апынуліся ня толькі працы Украінскіх і Беларускіх дзеячоў тых часоў, але і сучасныя досьледы нацыянальных і замежных вучоных, якія парушваюць гэтыя пытаньні.

Усе спробы правядзеньня навуковых спрэчак на конт супярэчлівых мамэнтаў гісторыі Беларусі і Украіны на бачынах ахвіцыяльнага друку былі безпасьпяховыя. Стасуецца і безліч іншых перашкодаў.

Таму мы, група незалежных гісторыкаў і краяведаў, якіх злучае турбота за стан нацыянальнай гістарычнай навукі, стварылі камітэт Падшыкоўкі Навуковай Гістарычнай Канфэрэнцыі «Падзеі 1917—1953 гг. на Беларусі і Украіне» Мэтай Канфэрэнцыі.

— Стацца мейсцам обмяркаваньня незалежных гістарычных канцэпцыяў.

— Зрабіць спробы юрыдычна-праўнай ацэнкі падзеяў 1917—1953 гадоў.

— Вытычыць накіраваньні супрацы ў дзейнасьці над незалежнымі гістарычнымі канцэпцыямі і ў іхнай папулярызацыі.

Камітэт заклікае ўсіх, хто згодны з мэтай Канфэрэнцыі прыняць дзейны удзел у падгатаваўчай працы і ў Канфэрэнцыі.

Мы заклікаем суродзічаў з паза межаў Распублікаў, а такжа ўсіх, хто працуе над праблемамі гісторыі Беларусі і Украіны далучыцца да нашай дзейнасьці і тварыць філіялы Камітэту, а такжа аб дапамогу ў пошуках матэрыялаў ў бібліятэках і прыватных архівах.

Для падшыкаваньня і правядзеньня Канфэрэнцыі патрэбныя матэрыялы і тэхнічныя сродкі. Хто ўважае патрэбным дапамагчы, або ўзяць удзел, калі ласка, зьвяртацца ў Менску да Натальлі Сяргееўны Аладзьдзевай: тэл. 33-32-42. У Ільвове: Раман Дужынскі, тэл. 64-03-16.

**Камітэт Па Падшыкаваньні Канфэрэнцыі «Падзеі 1917—1983 год на Беларусі і Украіне»**

**Беларускі Дасьледчы Інстытут імя Кастуся Каліноўскага — Таронта — Нью-Йорк поўнасьцю падтрымоўвае ініцыятыву навукоўцаў — суродзічаў на бацькаўшчыне, скліканьня адумыснай Канфэрэнцыі дзеля абмяркаваньня з незалежніцкіх пазыцыяў, гістарычных падзеяў на Беларусі /і на Украіне/, давёўшых да гэнацыду і лінгвіцыду Беларускі народ.**

**БДІнстытут**

## УКРАІНСКІ ДЭПУТАТ АБ ЧАРНАБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЕ

На апошнім /Другім Зьезьдзе Народных Дэпутатаў СССР у Маскве, Дэпутатка ад Украіны: А. Ярашынская, выступіла ў справе ахвяр Чарнабылу: ... У Маскоўскай Гэматалягічнай клініцы сяньня, чатэры гады пасьля трагэдыі, можна бачыць немаўлятаў з Украіны і Беларусі, якія паміраюць. Паміраюць не таму, што лекары ня могуць ім дапамагчы, а таму, што для гэтых дзецяў няма адпаведных харчоў, патрэбных лекаў, аднаразовых шпрыцаў і таму, што шпіталі перапоўненыя...

Я і іншыя Дэпутаты Украіны і Беларусі атрымалі шмат тэлеграмаў на гэтую тэму.

А вось як дзеліцца і куды ідзе сабраная з ахвяр дапамога паводле ахвіцыяльных даных: З сабраных досюль каля 600 мільёнаў рублуў, атрымалі: Украіна 300 мільёнаў зчымся. Беларусь 200 зчымсь, а 60 мільёнаў рублёў: Міністэрства на пакрыцьцё выдаткаў паўсталых з прычыны катастрофы, якая ўласьне і вынікла ў выніку нядбальства бюракратаў Міністэрства.

## «ЦЭНТР БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ»!!!

Да якіх насьмехаў даходзіць ў «Беларускай Распубліцы» над мовай народу паказвае гэтыя пару радкоў, надрукаваньня з пісьмаў у «Літаратуры і Мастацтве» з пісьма Тацяны Гурэцкай: ... «ля Палацу Культуры Тонкасуконнага Камбінату імя Кісялёва, дзе створаны «Цэнтр Беларускай Культуры», няма ані воднай аб'явы на роднай мове, нават шыльда пры ўходзе і тая на рускай мове.

## 42 ГАДЫ ХАВАЎСЯ Ў БАЛАТАХ!

Летась выйшаў з Бастынскіх балот Лунінеччыны Іван Бушыла — жыхар вёскі Бастынь і паддаўся уладам. Іван Бушыла укрываўся ў балатах 42 гады, баючыся разправы Камуністычных улад за некія выказаныя ім словы крытыкі ў 1948 годзе.

Іван Бучыла хаваўся 'ля свае-ж вёскі ў непраходных балатах Бастыні, а не ў суседніх лясох, дзе маглі яго схапіць Камуністычныя гіцлі.

Ён прызнаецца, што пры Хрушчоўскай гэтак званай «адлізе» яго намаўлялі бліжнія: «уявіцца» перад уладамі, але ён не здэцыдаваўся і уявіўся толькі цяпер, калі стала больш пэўным, што яго ўжо не заарыштуюць і не пашлюць у Сыбірскія канцэтракі.

Што цікавае, дык тое, што мяйсцовыя людзі ведалі аб ім. 42 гады яму неслі есьці, падкідвалі сякую-такую вопратку, а нават часам і газэтку, але ні адзін яго ня выдаў у рукі гэпістаў. Ад дажджу і сьнегу хаваўся ў развалене́й, струхлелай адрынцы на сена з палузьдзертай страхой. Маці і бацька за гэты час памерлі, але людзі аб ім памяталі і ён застаўся жывы!

Дзякуючы сяньняшняй палітыцы «гласнасьці» аб гэтай страшнай сваім зьместам падзеі, загаварылі і Камуністычныя газэты і нават ТАСС, якія захлёбваючыся паведамілі, што вось чалавека ўжо ня «судзілі», але першым чынам выдалі яму новенькі «Савецкі пашпарт», — гэтую сымбалічную нявольніцкую вобруць пананваньня Камунізму, ад якога ён хаваўся 42 гады.

Некі «журналіст» ў «Советской Белоруссіі» — А. Леоновец нахабна прабуе пярэчыць паданым той-жа Савецкай прэсай фактам аб Бушыле. Маўляў, паданае ў газэтах разыходзіцца з праўдай. Што аб існаваньні Бушылы ведала



**Іван Бачыла у сваім схоўку па загаду пазуе для камуністычнай газэты пасьля, як паддаўся ўладам**

і Лунінецкае ГПУ і Раённае начальства, і «селькомаўцы», што немагчыма было ня ведаць, калі чалавек прыходзіў памагаць часам аднавяскоўцам касіць сена, калі ён знасіў столькі вопраткі, нехта-ж даваў? Адным словам, Камуністычныя гіцлі ведалі і самахоць не лавілі! Нехта паверыць??!

## «ГРУНВАЛЬД»

У Эстоніі пачаў выходзіць Беларускі часапіс: «Грунвальд» — Навіны Беларускага Адраджэньня. На загалоўнай бачыне на ілюстрацыі відзён і Беларускі сьцяг.

## 206 ТЫСЯЧ ЗАПІСА-НА БЕЛАРУСАМІ Ў БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Паводле ахвіцыяльнай статыстыкі, выяўленай падчас апошніх выбараў у Польшчы на Беласточчыне 206 тысяч запісана Беларусамі. Зразумела, што гэта хіба выключна — Праваслаўныя, але не ўсе, бо дзякуючы палянізатарам з кіраўніцтва Праваслаўнай Царквы і часткі рэнегацкага духоўніцтва на мяйсцох, а перадусім страху перад Палякамі ў гарадах з іхным сьляпым супэрнацыяналізмам, шмат тысяч праваслаўных Беларусаў як у Беласточчыне, а перадусім у іншых частках Польшчы падаюцца за Палякоў. Гэта прыблізна мінімум: 50 тысячаў. Рэшта гэта Беларусы Каталікі, якіх на самой Беласточчыне і акрайцу Белападляскага ваяводзтва ня меньш 100 тысячаў /узяўшы пад увагу і перасяленцаў з Віленшчыны/. Усе яны паза адзіночкамі пішуцца «палякамі» /ад Польскай рэлігіі, а бежанцы са страху перад Бясьпекай, хоць у падпісудчыкоўскай Польшчы на Беласточчыне зырка разьвінаўся Беларускі рух у Касьцёлах/. Восьжа узяўшы гэтыя даныя трэ' лічыць, што Беларусы складаюць амаль 50% насельніцтва Беласточчыны на 680 тысяч насельніцтва, бяручы пад увагу, што ў горадзе Беластоку /262 тысячы/ шмат наезжага элемэнту з Польшчы Беларусамі ў ім запісана 25%, але да гэтага трэ' дадаць хіба яшчэ ня меньш 15% Каталікоў, ды столькі-ж маскірантаў пад «палякоў».

Вельмі прыкра, што ў апалячваньні Беларусаў бяруць удзел ня толькі ксяндзы, але як ня дзіва і Праваслаўныя сьвятары. Адарваўшыся ад роднага корня, яны прабавалі наш народ на Беласточчыне абрасейшчыць, ужываючы дзе мага Расейскую мову, але з ростам Польскага нацыяналізму, якой скіроўвае ўсю сваю ненавісь супроць Расейцаў як частку той моцы, якая іх пакарыла і накінула камунізм, прызвычаеная лякайстваваць перад «уласьць імушчымі», гэтыя сьвятары перапрануліся цяпер на «палякаў». Іхны прадстаўнік з Камуністычнай лісты засядаў у прошлых Соймах. Далі грошы на Праваслаўны часапіс у Польскай мове. Але калі такі-ж часапіс даны Пратэстантам завёцца як належыць: Пратэстанскія Зьвесткі» ці нешта падобнае, дык Праваслаўны часапіс, выдаваны ў Беластоку чамусьці не названы напрыклад: «Праваслаўным Часопісам», ці нечым падобным, але «Тыгоднік Падляскі» — Тыгоднік Польскі»!!! — Гэта значыць, што ён для Палякаў, а не Праваслаўных у Польшчы! Калі-ж гэты «тыгоднік» лякалізуюць з Беларускім Падляшшам, дык павінен быць «тыгоднікам» Беларускім у Польскай мове, а не «Польскім».

На Беласточчыне закладзена гэтымі-ж коламі «Праваслаўнае Брацтва», якое ня толькі не бароніць перад палянізацыяй свайго народу, як рабілі Праваслаўныя Брацтвы ў часы шляхецкай Польшчы, а наадварот дапамагаюць палянізацыі, разьбіваюць Беларускія акцыі, як напрыклад — беларусізацыю казаньняў у Цэрквах і іншае, аж да гэткай правакацыі, як выстаўленьне ў апошніх выбарах проціў Беларускага кандыдата, свайго з Варшавы /Мартынюк/, які зьяўляецца Сакратаром Украінскага Грамадзка-Культурнага Таварыства, пэўна-ж укрыўшы ягоную нацыянальнасьць і дзейнасьць як Украінца. Абы толькі не Беларуса! А як акрэсьліць гэткія дзівосы, як пабудаваньне ў Гайнаўцы Царквы ў стылі Гуцульскага Падкарпацьця, а ў Беластоку ў Расейскім стылі купалоў, замест аднавіць узоры свайго роднага дойлідзтва.

Чаму напрыклад Беларуская Царкоўная тэрыторыя падзелена і ад Беластоцкай Епархіі адарвана Бельшчына, ды прыдзеленая да Варшаўскай Епархіі? Чаму на Беларускую Епархію пасаджаны япіскап Сава — Украінец, а на Беларусы япіскапы пасланыя ў чужыя этнічна Епархіі?

М.С.

## САЛЕЧНІКІ АБВЕШЧАНЫЯ ПОЛЬСКІМ РАЁНАМ

Польскі нацыяналізм праявіў сябе на Віленшчыне. Палякі згрупаваныя ў Вільні /60-70 тыс./ падбухторылі зпалінізаванае падвіленскае сялянства /фактычна нясьведамых Беларусаў Каталікоў, гаворачых Беларускім Віленчукоўскім дыялектам, а называючых сябе «Палякамі», бо «Польскай веры»/ абвесьціць свой раён Аўтаномным Польскім раёнам, касуючы дзяржаўнасьць Літоўскае мовы і пастанаўляючы ў Салечнікаўскім раёне як дзяржаўную мову — Польскую. Зроблена гэтае ў саюзе з Віленскімі Расейцамі, аб'яднаўшыся ў кіраваны Лігачовым з Палітбюра «Інтэрнацыянальны Фронт 'Єдінство'», створаны для процідзеяньня нацыянальным рухам паасобных Распублік, якія імкнуцца да сувэрэннасьці і захаваньня сваіх моваў і культур ад русыфікацыі. Такім-жа чынам Расейска-Польская супалка Інтэрфронту «Єдінство» прабуе падбухторыць невялікую групу каталікоў-Палякаў і спольшчаных Беларусаў—Католікаў ў Дзьвінску, каб яны на супалку з Расейцамі, якія прабуюць кіраваць і Беларускім сялянствам ваколіцаў Дзьвінска, каб стварыць і там дзьвінскі Аўтаномны Польскі раён з увядзеньнем дзяржаўнасьці Польскае і Расейскае мовы, замест уведзенай цяпер у Латвіі — Латыскай. Дзівосная супалка Палякаў з «Маскалямі», якіх називана люцейшымі ворагамі Польшчы, выклікала гострую рэакцыю ў Польшчы, ў колах «Салідарнасьці». «Салідарнасьць Земляолбаў Індывідуальных» /Сялянская Салідарнасьць/ зьвярнулася да Палякаў Віленшчыны з адкрытым пісьмом, ў якім папярэджвае іх аб неаблічальных наступствах гэтага кроку ў час калі будзяцца незалежніцкія настроі і рухі сярод Літоўцаў. Нацыяналістычныя падбухторваньні ў гэтакай хвілі ды яшчэ на супалку з Расейцамі ня толькі не карысныя для Польшчы, бо здрада Літвы, дзе яны жывуць, гэта здрада Польшчы! Абвешчаньне Польскага Аўтаномнага раёну ў Літве ня ёсьць Польскім сьвятам, але палітычным посьпехам Расейцаў. Заглядаючы ўперад гэта страта і блага для ўсіх. «Дзялі і пануй!» — дае часовыя посьпехі, але на доўшы час родзіць атручаныя плады. Нашым абавязкам папярэдзіць Палякаў у Літве не урачыісьняць спрэчных з іхняй жа карысьцяй-мэтаў. Калі скарыстаюць з чужое Расейскай дапамогі, каб умоцніць часова свае пазыцыі, дык зробяцца там чужым элемэнтам і як такі будуць пасьля адпаведна лічаныя, — піша «Салідарнасьць».

Водгалас гэтых падзей на Віленшчыне раздаўся ўжо ў Беластоку, дзе нарэшце мяйсцовыя Беларусы паднялі голас у абароне свае мовы і культуры і наагул свайго існаваньня! Калі Польскія колы і часапісы і камуністычныя і нацыяналістычныя паднялі вый, што Беларусы дамагаюцца аўтаноміі, Беларусы ў адказ падалі ім падзеі ў Салечніках на Віленшчыне. Калі аўтаномія Польскай меньшасьці на Віленшчыне гэта справядліва, дык чаму аўтаномія дляБеларусаў, а іх значна больш чым Палякаў у Салечнікаўскім раёне Літвы, бо толькі Праваслаўных — 200 тысяч — рэч чуць ці не злачынства? На зьезьдзе ў Нямеччыне Палякі абвесьцілі Польскую акругу з Салечнікаў і частак Віленскага, Троцкага і Сьвянцянскага р-наў.

## ПРАТЭСТАЦЫЙНАЯ ГАЛАДОЎКА Ў НОВАПОЛАЦКУ

Новаполацк з ягонай нафтаперарабляючай прамысловасьцяй зьяўляецца адным з найбольш атручаных гарадоў БССР. Паветра гораду немагчымае для нармальнага аддыханьня. Насельніцтва хварэе рознымі хваробамі зпалучанымі з забруджаньнем паветра. Адной з крыніцаў гэтай атруты зьяўляецца хвабрыка Бялкова — Вітамінных Канцэнтратаў. Шматгадовыя дамаганьні жыхароў гораду аб перапрафіляваньні хвабрыкі на выраб чыстай прадукцыі, нядаў ніякіх вынікаў, што прымусіла ініцыятараў абвесьціць і правесьці пры будынку Кампартыі двохдзённую, пратэстацыйную галадоўку. У галадоўцы прынялі удзел: Старшыня Полацкай Рады Беларускага Народнага Фронту — інж. А. Кулік, Бард — С. Сокалаў — Воюш, работнік хвабрыкі: «Вымяральнік» — В. Храмцоў, электраманцёр — А. Туркоў, апэратар «Нафтаагсінтэз» А. Лапкоўскі і работніца БУ 124 М. Аксёнава. Падчас пратэстацыйнай галадоўкі сабрана тысячы подпісаў жыхароў з дамаганьнем ліквідацыі хвабрыкі атруты паветра і людзей. Першы Сакратар Гаркома Кампартыі — Панталёў асьведчыў з нагоды пратэстацыйнай галадоўкі, што гэта спроба галадуючых здабыць гэткім чынам папулярнасьць перад выбарамі ў Саветы Распублікі.

*Пісьмо ў Радакцыю*

## ЯГОНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА!

Прачыталі мы як адзін наш палітычны туз з Аўстраліі разьпінаўся аб сваім «супрацоўніцтве» з людзьмі ў сваім жыцьці, бо ён ня любіць змаганьня. Далей ён намаляваў перад карэспадэнтам Беластоцкай газеты свой той шлях «супрацоўніцтва» з людзьмі, такі салодкі хоць да раны прылажы! Толькі ў канцы крыху вышчарыў свае клыкі: адно маўляў шкода: ў Царкве дзяруцца! Мітрапаліт Ізяслаў і арх. Мікалай у суды шмат грошаў улажылі замест напрыклад яму іх аддаць. Ён пэўна знаўбы як іх скарыстаць! Пусьціў туману ў вочы Беластачанам! А адкуль бо ім і знаць, што гэты гэткі лагодны перад карэспандэнтам старэнькі дзядзька, ёсьць тым кіпцюрыстым груганом, які вось і быў дзесяткі гадоў злым духам, які разьбіваў усё рэлігійнае жыцьцё Беларусаў Аўстраліі, дый ня толькі быў але і ёсьць! Дзякуючы яму запазьнілася арганізацыя Царкоўнага жыцьця ня толькі ў Мэльборне, але і ўва Аўстраліі. Прыехаўшы да Аўстраліі, агэнтам самазванага «Ураду» Абрамчыка, ён справаваў падпарадкаваць сабе Праваслаўныя колы, якія ходаліся зарганізаваць свае Царкоўнае жыцьцё ў Мельборне, Сыднэю і Адалэйдзе. Калі бяз ягонай «дапамогі» а. Шчурко заклаў Першую Аўтакефальную Праваслаўную Беларускую Царкву ў Адэлэйдзе, дык ён нацкаваў на яго сваіх падручных «радных» Абрамчыкавай Рады, бо айцец Шчурко хацеў быць толькі сьвятаром, а не прапагандыстам Абрамчыкавай партыі Папскага панадворку. Беднага айца Шчурка зацкавана да сьмерці, а Царкоўныя непаладкі трывалі не адзін год, пакуль не паўміралі розныя трысмаковы і падобныя, падручныя гэтага гругана, які сам сваю рэлігійную лічыну мяняў паводле ветру і пэрэспэктываў бізнэсу. /Паходзіць з Праваслаўных Беларусаў Беласточчыны, пасьля перавярнуўся на Паляка, каб стаць настаўнікам Польскай школы недзе каля Лодзі. Вяруўся з Сябірскай зсылкі з арміяй Андэрса як Паляк і каталік, а вось з Англіі прыехаў ужо як «праваслаўны/. Тут склікаў пару сваіх падручных, стварыў сваю «Епархіяльную Раду» БАПЦ і спрабаваў камандаваць Праваслаўнымі палітычна. Супрацівіўся гэтаму перадусім мяйсцовы Мэльборскі Беларускі сьвятар а. Аляксандар, які заклаў Беларускі прыход. Сьвятар казаў, што Царква для малітвы, а не для палітыкі і палітыкі ня могуць кіраваць Царквой. Многія гады гэты груган з сваімі кумпанамі падрываў дзейнасьць сьвятара па здабыцьці свайго ўласнага будынку. Яшчэ пару гадоў таму, як Першагерарх БАПЦ візытаваў прыходы ў Аўстраліі, гэты груган агітаваў, каб людзі ня йшлі да Царквы на сустрэчу з Мітрапалітам Ізяславам, бо Ён, бачыце, вывеў БАПЦ з падпарадкаваньня Абрамчыкавага «ураду», ну і разумеецца ягонага! На шчасьця ачмураныя гадамі людзі цяпер ужо празрэлі і на паклёпы не паддаліся! У Сыднэі — найбольшым скупішчы Беларусаў, наагул да закладзін Царквы не дайшло, бо пры дапамозе свае купкі тамтэйшых Беларусаў-Каталікаў, яны наагул разьбілі ўсе Беларускае арганізацыйнае жыцьцё пасьля сьмерці Клуніцкага — кіраўніка і закладчыка Беларускага Аб'еднаньня. Праўда там гэтаму гругану выдатна дапамагаў Зуй, правадыр Астроўшчыкаў, які на адмену падтрымоўваў япіскапа Апанаса з Расейскай Зарубежнай, а калі той пакінуў Аўстралію, дык зрываў усе спробы стварыць БАПЦ. Хто ён гэты груган, нарабіўшы столькі шкоды Беларускаму жыцьцю ў Аўстраліі? Беларус, як быў ў дзяцінстве, ці Паляк? Ягоны брат і дасюль лічыць сябе Палякам, размаўляе толькі па польску, член Польскай Вэтэранскай арганізацыі. Калі Прэзыдэнт Польскага «Жонду» з Лёндану прыяжджае да Аўстраліі, абавязкова спатыкаецца з гэтым «беларускім прадстаўніком» на «спэцыяльнай аўдыэнцыі». Што да гэтага дык яшчэ цікавая старонка ягонай дзейнасьці, аб якой ён сьціпла не расказаў, але якую разказваюць Гродзенскія Палякі, якія засталіся ў жывых пасьля Сыбірскіх лягероў. Саветы застаўшы яго ў 1939 г. у Вільні як змабілізаванага Польскага ахвіцэра запасу, не павязьлі да Катыня як іншых, але вызначылі настаўнікам да былой Польскай гімназіі ў Гродні. Польскія вучні старэйшых клясаў — юнакі, мелі даверра да свайго вучыцеля, бо ён жа быў Польскім ахвіцэрам і Польскім настаўнікам з Польшчы. Прызналіся, што заклалі сваю патаемную патрыятычную арганізацыю. Аднаго разу іх усіх ўзяло НКВД. Катавалі, — ўсе даныя данёс іх ахвіцэр. Але па некаторым часе забралі і гругана, бо чакісты не паверылі хіба, што ён шчыра данасіў, ці што? Паехаў і ён у лягеры, а адтуль ратаваўся ў Андэрсаўскае войска. І вось калі Армія па вайне прыбыла ў Англію, дваіх былых Гродненскіх вучняў, застаўшыхся ў жывых па лягерах, раптам пабачылі і пазналі свайго вучыцеля-даносчыка. Ён быў, як і яны, ў мундуры Польскай арміі! Кінуліся ў Штаб арміі. Так і так. Гэта які пагубіў некалькі дзесяткаў Гарадзен-скіх студэнтаў — даносам. Па некалькі днях паклікана іх да Штабу. Мы пра ўсе гэтае ведаем! Але некаторыя палітычныя прычыны вымагаюць гэту справу не парушаць і радзіцца і ім маўчаць. Ён ім патрэбны!... Адзін з іх цяпер, здаецца Бурскі, ў Амэрыцы.

**Аўтакефалісты**

## АДНАЎЛЕНЬНЕ КАТАЛІЦЫЗМУ НА БЕЛАРУСІ

У сувязі з нядаўнай сустрэчай Гарбачова з Папай Рымскім ў Ватыкане з Каталіцкіх колаў дакаціліся чуткі, што ў выніку сустрэчы будзе дазволена Ватыкану ахворміць ўсю сваю гістарычную епархіяльную структуру ў рамках БССР, але з умовай зьліквідаваць дасюль сымбалічна існуючы «адміністрацыі на справе ня існуючых перадваенных Архідыяцэзыі Віленскай» /сымбалічны Адміністратар ў Беластоку ў Польшчы/ і Дыяцэзыі Пінскай /сымбалічна існуючай з аседкам сымбалічнага Адімістратара ў Драгічыне Падляшскім ў Польшчы/. Абшары Заходнябеларускай часткі былой Віленскай Архідыяцэзыі маюць тварыць Гарадзенскую Дыяцэзыю /Біскупства/ з Біскупам ў Горадні. Аднаўленая Пінска-Палеская Дыяцэзыя мае быць у Пінску /Берасьцейская і вобласьць/. У Менску мае быць Архідыяцэзыя з Арцыбіскупам Менскім і Магілёўскім. Біскупы маюць быць Палякі, але паходзячыя з Беларусі. У Менску дзее адзін ксёндз, які гаворыць па Беларуску і таму вельмі многа даў карысьці каталіцкай Царкве. Ён бярэ удзел ва ўсіх Беларускіх нацыянальных сьвяткаваньнях, маніфэстацыях, урачыстасьцях. У Менску разпаўсюджваецца шырока на гэткіх зборах людзей выдаваны ў Лёндане «Веснік» Апостольскага Візытатара для Беларусаў Каталікоў /Вуніяцкая Місыя ў Англіі/ і «Хрысьціянскія Навіны» з Рыму — Ватыканскае Радые. Адбіваны на мейсцы на ксэрасе, разпаўсюджваюцца падобна па 2 тісячы. Пры дапамозе Касьцела маюць перадрукоўвацца і іншыя Беларускія перыядычныя выданьні провуніяцкага напрамку, што выходзяць на эміграцыі.

● У Менску быў затрыманы В. Янкоў па абвінавачаньні ў распаўсюджваньні «Свабоднага Слова» і «Атмола». Выдавецтвы сканфіскаваныя падпалкоўнікам Унутраных Спраў — Няхай-Бабіновічам.

## І Ў БЕРАСЬЦІ ЗНАЙШЛІСЯ СУМЕННЫЯ!

Як падавалі перадтым, справу арыштаванага на Каўказе палітычнага дзеяча — Манчурава, заточанага ў Маскве ў турме, па абвінавачаньні ў арганізаваньні забурэньняў на Каўказе, Маскоўскія галавары казалі судзіць на Беларусі. Беларускі Вярхоўны Суд спрабаваў перакінуць гэтую брудную работу Берасьцейскаму Акруговаму Суду, а той адмовіўся гэтае зрабіць і вярнуў справу назад ў Менск «дзеля прадаўжэньня сьледзтва». Менск зьвярнуў справу Маскве. Цяпер аказваецца, што Берасьцейскі Суд ня толькі зьвярнуў справу на далейшае дасьледваньне з браку довадаў праступства, але і прыняў пастанову аб звальненьні да Суда абвінавачанага з турмы. Масква пастанову Берасьцейскага Суду апратэставала, бо звальненьне з турмы Манчурава зашкодзіць дасьледваньню.

## У АЎСТРАЛІІ АРЫШТАВАНА ПА АБВІНАВАЧАНЬНІ ПАМАГАНЬНЯ «НАЦЫ»

У Сыднэі арыштавана па абвінавачаньні ў «ваенных праступствах» Івана Палюховіча. Яго абвінавачана ў памаганьні нацыстам падчас апошняй вайны і дакананьня забойстваў 24-х цывільных у Роўненскай акрузе Украіны.

## БЕЛАРУСКІЯ СЬВЯТЫЯ

Як вядома, з ініцыятывы Мітрапаліта Менскага і Беларускага Філярэта з Рускай Праваслаўнай Царквы, а цяпер «Мітрапаліта Менскага і Гродзенскага — Патрыяршага Экзарха Беларусі» — Філярэта, створана адумысную ікону Беларускіх Сьвятых, вызначаны Дзень іхнага памінаньня і адумысную малітву да Іх. Аднак як ужо ня раз падкрэсьлівала нашая прэса, нажаль ў гэты сьціслa рэлігійны чын, ўведзена недапушчальную камуністычную палітыку. Камуністычныя загадчыкі Маскоўскай Патрыярхіі прымусілі обмяжаваць лік «Беларускіх Сьвятых» выключна да штучных межаў Беларусі акрэсьленых межамі Створанай Камуністамі БССР, пакінуўшы паза лікам Беларускіх Сьвятых паходзячых і дзеячых у тых частках Беларусі, якія па волі Камуністычных валадароў забраныя да Расейскай Рэспублікі, або адыйшлі да Літвы і Польшчы.

Прабуе гэтыя палітычныя махінацыі ў Царкоўным жыцьці выправіць «Беларускі Інфарматар — Царкоўныя Навіны» Ватыканскага Радыя. У артыкуле аб Беларускіх Сьвятых там падаецца:

**Антон, Іван, Эўстафі- памерлі ў I347 годзе- Віленскія мучанікі і цудатворым, прызнаваныя ў грэка-каталіцкай і праваслаўнай Царкве. Памяць 27/I4 красавіка.**

**Аўраам Смаленскі, памёр у I22I годзе, патрон багаслоўскае асьветы на Беларусі; прызнаны у Усходня- каталіцкай і Праваслаўнай Царкве. Памяць 2I жніўня.**

**Атанасы, ігумен берасьцейскі, памёр у I648 годзе. Мае мясцовы культ у Праваслаўнай Царкве. Памяць 2 жніўня.**

**Гаўрыіл, юнак слуцкі, памёр у I690 годзе. Легэндарная постаць у Праваслаўнай Царкве.**

**Герасім, Смаленскі мітрапаліт. Спалены Сьвідрыгайлам на кастры у Віцебску у I435 годзе. Аб ім захавалася вельмі мала вестак.**

**Давід, князь Смаленскі. Мясцовы праваслаўны сьвяты, памяць I9 верасьня.**

**Ёзафат, архібіскуп Полацкі, які жыў ад I580 да мучаніцкае сьмерці ў I623 годзе. Памяць I2 лістапада ў Каталіцкай Царкве ўсіх абрадаў.**

**Еўфрасіня- Прадслава, княгіня і ігуменьня Полацкая, якая памерла ў II67 годзе. Яна ёсьць патронкаю Беларусі. Памяць 23 траўня ва ўсходня-каталіцкай і Праваслаўнай Царкве.**

**Эфрэм Смаленскі жыў у I3 стагоддзі, мясцовы сьвяты Праваслаўнай Царквы.**

**Ігнат, Біскуп Смаленскі, які памёр у I2I0 годзе. Субяседнік Аўраама. Мясцовы сьвятар, памяць 29 студзеня.**

**Канстантын, князь Смаленскі, цудатворца, памяць I9 верасьня.**

**Казімір, вялікі князь беларускі, які памёр у I484 годзе, памяць 4 сакавіка ў Рыма-Каталіцкай Царкве.**

**Кірыл, біскуп Тураўскі, жыў ад II30 да II82 году, беларускі Залатавусны памяць 28 красавіка ў-ва ўсходня-каталіцкай і праваслаўнай Царкве.**

**Лаўрэн Тураўскі, памёр у II83 годзе. Мясцовы сьвяты, памяць 2I студзеня.**

**Маркуры, воін Смаленскі, памёр у I238 годзе. Легэндарная постаць; памяць 7 кастрычніка і 22 верасьня.**

**Параскева, ігуменьня Полацкая, памерла ў I243 годзе. Мясцовы культ усходня-каталіцкай Царквы.**

**Расьціслаў Мсьціслававіч, князь Смаленскі, праваслаўны мясцовы сьвяты.**



## АНТАЛЁГҐЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСЬНІ

У Менску закончана агучваньне двутомніка Анталёгіі Беларускіх Народных Песьняў Рыгора Шырмы. У Анталёгіі 213 песьняў. Агучваньне выканана Хорам Дзяржаўнага Тэлерадыя БССР пад кіраўніцтвам Віктара Роўды.

Мінула амаль 25 гадоў, як пачалося гэтае агучваньне аднаго з найбольшых збораў народнае песьні, сабраных Рыгорам Шырмай і тым захаваных ад загібелі, як напрыклад збору каля 200 песьняў з Заходняй Беларусі Сымона Рак-Міхайлоўскага, прыгатаванага было да друку ў Менску і загінулага разам са зборшчыкам у катоўнях НКВД.

## НОВЫЯ «ЧОРНАСОЦЕНЦЫ»

Як вядома, ў новы Закон аб выбарах у БССР пануючая камунафашыстоўская кліка правяла пункт аб бязвыбарным праве арганізацыяў Вэтэранаў пасылаць сваіх сяброў в будучы Вярхоўны Савет. А што з сябе уяўляюць гэтыя Вэтэранскія арганізацыі паказваюць здарэньні ў Гомелі на гэтак званы «Дзень Дэсантна-Паветраных Войскаў», які ўважаюць сваім сьвятам ня толькі дэсантнікі, але і ўсе былыя ўдзельнікі акупацыйных войскаў і ў Аўганістане. Нефармальны ворган БНФ «Навіны» падаў, што: «з самага раньня натоўпы падпітых у блакітных бірэтах блукалі па вуліцах ў пошуках прыгодаў. На Калгасным рынку прычапіліся да некага прадаўца, каб частаваў іх дарма кавунамі. Пачалася сварка і бойка. Пайшлі ў ход нажы. Далей п'яны натоўп рушыў у Парк, дзе наладжаная была Аблкамам Камсамолу дыскатэка, дзе зноў разпачалася бойка з моладзьдзю. Аб 6-ай гадзіне мела адбыцца ўрачыстае складаньне вянцоў пры Вечным Агні — Помніку Палёгшых, але натоўп лаяўся і гвіздаў «улюлюкаў» проціў цырамоніі і ахвіцыяльных асоб, не зьвяртаючы увагі на ахвіцыяльныя выступы прамоўцаў. Замест плянаванага вячэрняга Канцэрту натоўпы «дэсантнікаў» і «аўганцаў» рушылі на растараны. У растаране «Заря», ў якім перад імі зачынена дзьверы, яны іх выламалі, уварваліся ў сярэдзіну і пачалі камандаваць знаходзіўшымся там наведвальнікам: лажыся! Ўстаць! Сьмірна! Хто ня выконваў каманды — білі. Аддзел міліцыі сустрэлі боем. Міліцыю разброілі і іхнымі-ж гумовымі дубінкамі іх зьбілі. Выклiканае падмацаваньне міліцыі з сабакамі сутыкнулася з 60-ці асабовай групай Аўганцаў, прыбегшых на дапамогу пад растаран. У бойцы на вуліцы Савецкай у цэнтры гораду паранена 16 міліцыянэраў /адзін знаходзіцца ў цяжкім стане/. Колькасьць параненых «дэсантнікаў» невядомая. 41 затрыманага пайшло пад суд.

Гэта ня першыя забурэньні ў Гомелі. Леташнім годам на «Масьленіцу» вялізны натоўп — каля 5 тысяч дэманстраваў — выліўся ў паход па Савецкай вуліцы ў кірунку гатэлю «Турыст», нішчачы ўсё на сваім шляху, ды кідаючы бутэлькі ў аўтобусы і іншыя мішэні.

## РАСЕЙСКІ ЧАСАПІС У АБАРОНЕ БЕЛАРУСАЎ І ЛІТОЎЦАЎ

**«Голос Зарубежья» ў Нямеччыне скамэнтаваў артыкулНобеляўца Часлава Мілаша, назваўшы ягоны артыкул у «Рускай Мысьлі» «маласымпатычным», бо разглядаючы гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, абяртае яго з трохчленнага у двухчленнае, начыста вымеўшы Беларусаў, якія складалі там больш чым палавіну насельніцтва і мова якіх была там дзяржаўнай. Далей Мілаш шкадуе, што Палякі не здолелі так асыміляваць Літоўцаў, як Англійцы Ірляндцаў, якія ў значнай меры затрацілі сваю мову і мусяць ужываць Англійскую, што было-б, як кажа «Голос Зарубежья», нацыянальнай трагэдыяй. Як бы падабаўся-б Мілашу — пытае «ГЗ», праэкт замены Польскае мовы — Расейскай, ці Нямецкай? У карысьць гэтага праэкту такжа можна прыдумаць розныя практычныя довады, — іранізуе «ГЗ».**

**У Тымжа часопісе /нр. 54-1989/ зьмешчаны шырокі камэнтар да агляду пару нумароў «Беларускага Голасу» на конт паведамленьня, што Расейскі эміграцыйны часапіс «Русская Мысль» зьмясьціў вязку артыкулаў, у якіх не прызнае самадзельнасьці Беларускай мовы. У сувязі з гэтым «ГЗ», ПАДАЎШЫ КОРАТКА АБ Беларускай мове, піша: «З падобнай пазыцыяй... мы салідарызавацца рашуча не ўстане...»**

## БЕЛАРУСКІ ЭКЗАРХАТ РПЦ

На прапанову Мітрапаліта Менскага і Гарадзенскага РПЦ Сабор РПЦ ў Маскве ўстанавіў Беларускі Экзархат РПЦ на тэрыторыі БССР і надаў тытул Экзарха Мітрапаліту Філярэту. Дасюль асобны Экзархат РПЦ існаваў толькі на Украіне. На жаль, трэба сьцьвердіць, што абвешчаны Беларускі Экзархат не ахоплівае ўсіх Праваслаўных Беларускіх вернікаў. Паза рамамі Беларускага Экзархату засталіся хіба каля 200 тісяч вернікаў Віленшчыны РПЦ, ачоленай Мітрапалітам Віленскім, ды ўсе вернікі Ўсходняй Беларусі з Смаленскай І Бранскай Епархіямі, як і вернікі Захадняй Пскоўшчыны /частка даўнейшай Віцебскай і Пскоўскай губэрніяў/.

## НОВАЯ ПОЛЬШЧА «САЛІДАРНАСЬЦІ» І БЕЛАРУСЫ

Як вядома, Беларусы Беласточчыны пад Польшчай, каб бараніцца ад дзікіх выступаў процiў іх мяйсцовых Польскіх кол, змушаныя былі, каб ратавацца ад поўнага зьнішчэньня, ісьці на паслугі Камуністычным валадарам, якія прабавалі выйгрываць Беларусаў у сваей барацьбе з Польскай бальшыней, як звычайна калі не на сваёй этнічнай тэрыторыі, як Беласточчына — гостра шавіністычнай. Аднак гэта ня значыць, што Беларусам жылося пры гэтай «народнай уладзе» соладка. Гэта быў тойжа вораг Беларускага народу, як і нацыяналісты і наагул амаль усе Палякі, што ёсьць звычайным на зьмешаных этнічна абшарах. Аб сяньняшнім становішчы піша ў Беластоцкай «Ніве» адзін з мяйсцовых дзеячоў: У. Юзьвюк. ... «Беларусы атрымалі магчымасьць выйсьці з перанаселяных вёсак, здабыць прафэсыю і працу, нават на найвышэйшых функцыях уключна. Разьвіваецца культура, дзейнічае БГКТ, выходзіць «Ніва». Калі аднак прагледзіцца лепш, то заўважым, што ўсё гэта трэба было вырываць з кіпцюроў, або ласкава выпрашваць... Адно і другое пярэчыла характару народнай улады, якая гэтыя «здабыткі» павінна сама ўводзіць. Гэта праўда, што Беларусы актыўна ўключыліся ва ўсе пераўтварэньні народнай улады, а яна мэтанакіравана пазбаўляла тэрыторыю ад Беларускага насельніцтва. Зараз ўсе часьцей гаворыцца аб занядбоўваньні мяйсцовай сельскай гаспадаркі, дробнай прамысловасьці, вынішчэньні лясоў, асабліва Белавескай Пушчы. Спачатку Паўдневы Ўсход Беласточчыны называўся «Капальняй кадраў», пасьля «старэньня вёсак», а зараз «Усходняй Сьцяной». Спусташэньні ў нацыянальнай субстанцыі — гэта вынік аднабаковага разуменьня інтэрнацыяналізму. Многія Беларусы мігравалі ў гарады пад узьдзеяньнем непрыхільнага ім асяродзьдзя самазаканспіроўваліся і выходзіць з гэтага маразму ня маюць ўжо сілы...

### ДА НОВАГА ТАТАЛІТАРЫЗМУ

Адзін з галоўных байцоў перастройкі — гісторык Юры Афанасьеў, ачольваючы ў Вярхоўным Савеце СССР Рэфармістоўскую фракцыю асьведчыў: Мы зьяўляемся сьведкамі тварэньня аўтарытарна-таталістычнай улады ўзгалаўлянай ініцыятарам перастройкі»....

## ЦЭНТАР БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

Прэзыдыюм Беларускага Культурна-Грамадзкага Таварыства ў Беластоку пад Польшчай пастанавіў стварыць у Польшчы Цэнтар Беларускае Культуры ў Беластоку з адзьдзеламі ў Бельску і Гайнаўцы, ды Гданску і Варшаве, дзе многа Беларусаў — эмігрантаў з Беласточчыны.

## БЕЛАРУСЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ ДАМАГАЮЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПРАВОЎ

Дэлегацыя прадстаўнікоў Беларускіх арганізацыяў пад Польшчай была прынята Намесьнікам Міністра Нацыянальнай Адукацыі. Дэлегацыя паставіла прад уладамі справу стварэньня ў Беластоку Інстытуту Беларускае Культуры. Абавязковае навучаньне Беларускае мовы, культуры і этнаграфіі ў Беластоку, клясаў Беларускай музыкі ў Музычных Школах і Музычнай Акадэміі ў Беластоку.

### ЦІ 180?

Ноўшая Польская статыстыка падала, што ў Польшчы пражывае 180 тысяч Беларусаў. Зразумела, статыстыка гэтая не бярэ пад увагу Беларусаў-Каталікоў Беласточчыны, якія пішуцца «Палякамі», як ім накінена зпрад веку Польскім клерам і якіх ня менш 100 тысячаў ў Беластоцкім, Бела-Падляскім і Аўгустоўскім ваяводзтвах, а такжа запісаных гэтак званымі: «Праваслаўнымі Палякамі», якіх назьбіраецца па ўсей Польшчы таксама дзесяткі тысяч.

### ЯК БАЧАЦЬ ПРАВАДЫРЫ ЛІТОЎСКІХ КАМУНІСТАЎ ПРЫШЛАЕ ЛІТВЫ

Лідар Камуністычнае Партыі Літвы, якая адзялілася ад Кампартыі Савецкага Саюзу — Альгірас Бразаўскас асьведчыў, што зразумела справы хвормы незалежнасьці Літвы, павінны будуць усталяваныя падчас размоў Крамлёўскіх кладаў з Літвой. Ёсьць фактам, што Літву далучана да СССР сілком. Гэта пацьвердзіў ня толькі Літоўскі Парлямэнт, але і Вярхоўны Савет СССР. /Хоць Гарбачоў аднак прызнаў гэта «волеізьліяніем народа», ды пагразіў «кравяпраліцьцем і сьмерцяй»/.

Мы размаўлялі аб Статуце Савецкіх войскаў, прабываючых у Літве. Мы спрабуем /разам з Масквой/ разпрацаваць гэткі механізм. Пад незалежнасьцяй і сувэрынітэтам раньней лічыліся розныя рэчы, мы прабуем выпрацаваць свой мадэль. На запытаньне карэспадэнта, ці прышлыя ўзаемаадносіны паміж Літвой і Савецкім Саюзам будуць, напрыклад, больш бліжэйшыя чым Фінляндіі і СССР, Бразаўскас адказаў, што: Хіба! Бо як ніяк мы-ж атрымоўваем 80% сыравіны з Савецкага Саюзу. Гэтае немагчыма ігнараваць.

## БЕЛАРУСКАЕ КРАЕЗНАЎЧАЕ ТАВАРЫСТВА

У Менску у сьнежані адбыўся устаноўчы зьезд дзеля утварэньня Беларускага Краязнаўчага Таварыства. Адноўленае Таварыства /бо яно існавала і было зьліквідаванае ў 30-ыя гады пры Сталіне/, азагалавіў Г. Кахаnоўскі. Сярод дзейных закладчыкаў: М. Ткачоў, М. Чарняўскі, А. Малдзіс і іншыя дзеячы.

### «СПАДЧЫНА»

З канца мінулага году пачаў выходзіць часопіс «Спадчына», выдаваны сумесна: Беларускім Фондам Культуры і Таварыствам Аховы Помнікаў.




Деманстрацыя ў Вільні за незалежнасьць Літвы

У Вільні пры Літоўскай газэце «Раніца Літвы» выйшаў Беларускамоўны дадатак: «Пагоня»: На Беларускай старонцы падаецца аб дзейнасьці Беларускай арганізацыі ў Вільні: «Сябрына» і «Таварыства Беларускай Культуры», «Справа Беларускага Школьніцтва і роднай мовы ў Царкве» і іншае.

### ХРОНІКА

У Каралеўскай Канадыйскай Акадэміі Мастацтва ў Таронце 24-га студзеня адбылася Сустрэча на запрашэньне бэцлель Акадэміі Мастацтва Ераза-ліму. Сярод запрошаных на адкрыцьце Выставы была наша прадстаўнічка — Магдалена Хмаранка.

### З НАГОДЫ АЛІМПІЯДЫ

Міністар Грамадзянства і Шматкультурнасьці — Боб Ёнг гасьціў прадстаўнікоў Этнічных групаў Таронта 23-га студзеня ў залях Сатон Плэйс Гатэлю, дзе выступіў са справаздаўчым дакладам аб падгатоўцы да прадбачанай для Таронта Алімпіяды 1996 году. На прыняцьці прысутнічалі ад Беларусаў: Янка Ліхач, Арына Валд, М. Хмаранка і іншыя.

### АЛБАНЫ КЛЮБ

31-га студзеня дзеячы Кансэрватыўнае Партыі Антэрыя гасьцілі ў Албаны Клюб прадстаўнікоў палітычных колаў і прэсы з нагоды набліжаючайся Канвэнцыі, якая мае выдзьвінуць новага Правадыра партыі на Антэрыё. Беларусаў рэпрэзэнтавалі прадстаўнікі «Беларускага Голасу».

### ПРЭЗЭНТАЦЫЯ

З нагоды падгатоўкі Алімпіяды 96 для Таронта, 19-га студзеня адбыўся ў залях Гарадзкое Управы Сход — прыняцьце, на якім запрошаным гасьцям быў прыпаднесяны Плян-кніжка прышлай Сусьветнай Алімпіяды. Янка Ліхач быў ад «Беларускага Голасу».

### У МАСТАЦКАЙ ГАЛЕРЭІ АНТЭРЫЯ

13-га лютага адбылася прыняцьце-лэнч для запрошаных гасьцёў у Мастацкай Галерэі Антарыя ў Таронце. Бернард Остры — Старшыня ТВ-АНТЭРЫЯ выступіў з дакладам: «Англійская мова, як другая». Ярына Валд прэзэнтавала «Беларускі Голас».

### ПРЭЗЭНТАЦЫЯ ТВОРУ РОБЭРТА ДРЫСКОЛЯ

У Мастацкай Галерэі — Ківа ў Таронце, 11 лютага адбылася прэзэнтацыя нававыданага твору вядомага паэты Робэрта О'Дрысколя, актуальна-палітычнае сатыры «НАТО і Варшаўскі Пакт Ёсьць Адзінае» і прыняцьце для запрошаных гасьцёў з літаратурных і мастацкіх колаў Таронта. Сярод прысутных былі прадстаўнікі нашай «Баявой Ускалосі».

### КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў АРЫЛЬЛІ

21—23-га лютага адбылася ў Жэнева-Парк Цэнтры — Антарыё трох-дзённая Канфэрэнцыя па справах расавых суадносін, скліканая Урадам Антэрыя праз Міністра Грамадзянства Боб Вонга.

Удзел у Канфэрэнцыі брала Магдалена Хмаранка — Дырэктар Зносін і Праграмовай Разбудовы Шматмоўнай Тэлевізыйнай Станцыі—47.



### СУСТРЭЧА З СТАРШЫНЁЙ Т.В. АНТЭРЫЯ

13-га лютага ў залях Мастацкай Галерэі Антарыя адбылася сустрэча і прыняцьце з Старшынёй і Экзэкутыўным Кіраўніком Тэлевізыі Антэрыя — Бэрнардам Острым, які прэзэнтаваў новую працу — Тэлевізыйны Курс «Англійская, як Другая Мова».

### З НАГОДЫ ЛІТОЎСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Літоўскія арганізацыі Канады сьвяткавалі 16-га лютага 72 Гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Літвы. На ўрачыстым прыняцьці з гэтае нагоды прысутнічаў Старшыня Камітэту Вольнай Беларусі С. Хмара з сужонкай.

### ПАМЁР КАСТУСЬ СТАНКЕВІЧ

У Паўдзённай Аўстраліі памёр Кастусь Станкевіч — доўгагадовы Старшыня Царкоўнай Рады Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Адэлэйдзе. Паходзіў з Турца на Наваградчыне. Быў у сваім часе і Старшынёй Фэдэрацыі Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі. Меў 64 гады. Пакінуў жонку Амільлю, дзецяў і ўнукаў.

### НАЎКОЎЦЫ З БЕЛАРУСІ У БЕЛАРУСАЎ АНГЕЛЬШЧЫНЫ

У канцы леташняга году Беларускую Бібліятэку імя Францыся Скарыны наведала пару Беларускіх наўкоўцаў з Менску, выступіўшы з дакладамі др. А. Аксамітаў аб стане Беларускае мовы ў БССР і ягоная жонка — др. Л. Малаш у справе збору твораў Беларускага фальклёру, ў якой асягнута досыць вялікіх посьпехаў, як забязьпечаньне друкам 40 тамоў народнага фольклёру.

### ВУНІЯЦКАЕ НАБАЖЭНСТВА

У Барунах на Маладэчыншчыне адбылося ў Каталіцкім Касьцеле сьвяткаваньне Дня Язапата Кунцэвіча — залічванага да Сьвятых Каталіцкай Царквой, а Праваслаўнымі — за перасьледвальніка іхнай веры. Набаженства у вуніяцкім абрадзе /падобным да Праваслаўнага/ наведала шмат вернікаў ня толькі з Беларусі, але і з Польшчы, адкуль прывезена некалькі аўтобусаў вернікаў і дзеячоў.

### БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ У БЕЛАСТОКУ

17-га лютага адбыўся ў Беластоцкай Фільгармоніі 18 Канцэрт ляўрэатаў Конкурсу «Беларуская песьня» 1990.

Тэатральны Калектыў імя Янкі Купалы ў Беластоку, зладзіў спэктакль 21-га студзеня ў Клюбе БГКТ. Паказаная была п'еса: «Ажаніся — Весяліся».

### ЭВАНГЕЛІСТЫ НА ЎСХОДНІМ УЗЬМЕЖЖЫ БЕЛАРУСІ

Рослаўская Абшчына Эвангельскіх Хрысьціян-Баптыстаў ў сувязі з палёгкамі, дапушчаючымі цяпер публічныя Хрысьціянскія выступы, пашырыла сваю дзейнасьць на ваколіцы. Такім чынам было зарганізавана выезд і выступленьне Рослаўцаў у Выганавецкі раён, у 50 вярстоў ад Рослаўля. Быў атрыманы дазвол на высьвятленьне рэлігійнага каляровага фільму «Ісус Хрыстос». Пасьля высьвятленьня фільму адбылося раздаваньне жадаючым Бібліі, прычым жадаючых было столькі, што Біблії не хапіла. Паказ фільму і Малітвенны збор адбыліся ў Доме Культуры саўгасу Арменскі.

У лістападзе леташняга году, Эвангельскі Хор і Аркестар з Бежыцы, выступілі ў паселішчы Восьцер, недалека ад Рослаўля, дзе ў Клюбе Тарпянікаў вдбылася Эвангеліцкая Багаслужба, прысьвячаная Тысячагодзьдзю прыходу Хрысьціянства на Кіеўскую Русь. Выступаў Бежыцкі Эвангельскі Хор і Аркестар.

### ЯНЫ ПОМНЯЦЬ!

У Глыбокім самадзейнымі захадамі утворана пры школе Нр. 2 Літаратурна-Мастацкі Музэй, дзе сабраныя матэрыялы аб жыцьці і творчасьці Янкі Пачопкі, Паўліны Мядзёлкі, Алеся Дубровіча і Аўдоцьці Лось. Гэткія-ж сьціплыя Музэі прысьвячаныя: Тварцу Беларускага Тэатру — Ігната Буйніцкага заложана ў Празароках, а мастаку — патрыёту Язэпу Драздовічу ў Падсьвільлі.

### ЗАМЕЖНЫ ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

У ЗША створаны «Фонд Беларускага Адраджэньня і Культуры». На чале Часовай Управы стаяць: др. Юрка Кіпель, Віктар Тур і А. Сільвановіч. Камунікат Фонду падае аб першай зборцы на Фонд, які прынёс 6 тысяч даляраў.

### АХВІЦЫЯЛЬНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ДАПАМОГІ КАТАЛІКАМ Ў СССР

Польскі Кардынал і Першагерарх Каталіцкай Царквы Глэмб стварыў арганізацыю дапамогі Каталікам СССР /Супалка Касьцельнай Дапамогі Каталікам СССР/.

### АДАБРАНА КАМУНІСТАМ

Будынак забраны ў сваім часе Кампартыяй на сваю сядзібу ў Беластоку, на дамаганьне насельніцтва перададзены нарэшце Беластоцкаму Унівэрсытэту.

## АДКАЗЫ РАДАКЦЫІ:

**Беластаччанам:** Зпачатку прызнацца не зьвярнулі увагі. Вось бенехта прыежджаў з Беластоку да Таронта да адной з групак — ведамых сваёй разьбівацкай дзейнасьцяй на ўлоньні Беларускай Аўтакефальнай Царквы, ад якой аж пахла Тыбраўскімі кухарамі, і ў нагароду за гасьціну рэзануў той вязанку рэпартажаў у Беластоцкай «Ніве» аб гэтай групцы, тым больш, што і ганарары плацілі, не пасьмеўшы нават заікнуцца, што ў Канадзе, дый у тым самым Таронце і ў іншых гарадах Канады, існуюць іншыя Беларусы, іншыя арганізацыі Беларусаў, не ў прыклад той дробнай групцы, бяручых удзел у жыцьці Канады. Ён не заўважыў будучы ў Таронце нават першай у Канадзе Беларускай Праваслаўнай Царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай, існуючай ад 1950 году, ані пісьменьніцкай Беларускай арганізацыі з сваім часапісам, ані існуючай ад 40 гадоў Беларускай газэты. Калі нам напісалі чытачы з Беластоку, што варта падкрэсьліць у «Беларускім Голасе» аб тым, як яны інфармуюць Беларусаў Беласточчыны аб Беларускай эміграцыі, мы лічылі, што гэта такая дробязь, што ня варта ёй займаць пару радкоў часапісу. Камуністычныя галавары БССР вось прабавалі ад год укрываць, што недзе у вольным сьвеце існуем і дзеім і тое не ўкрылі! Але вось за першым «пілігрімам» да сьвятых Мучанікаў ў Каталіцкай Сьвятыні Мідлянду, дзе з ініцыятывы с-ні Раісы Жук-Грышкевічавай, пастаўлена Беларускага Крыжа і куды цяпер штогодна адбываюцца прошчы Беларусаў Католікаў і Вуніятаў, хутка дзьвінуў і другі. І зноў тое самае: ані аднаго слова, што ў Канадзе існуюць некія Беларускія арганізацыі паза той групкай, да якой яго запрошана. Былі гэты найбольш знаныя з прэсы за мяжой, свайго роду чаловыя дзеячы Беласточчыны — пісьменьнікі.

У лісьце, які выклікаў гэтую нашую зацемку, названа гэты іхны ўчынак як «маральную падлоту» за пару сотак даляраў /аплачанае падарожжа да Канады/, «яны прадаюць суменьне»... Мы аднак з гэтай ацэнкай не пагадзілісьбы. Паводле нас гэта звычайная зьява гадоўлі Камуністычнае сыстэмы. Яны гэткімі выгадаваныя! Больш тога: лічаць сябе Беларускімі патрыётамі і стаіць на чале Беларускай Грамадзкай Арганізацыі, якая пры панаваньні Камуністаў кіравала культурна-грамадзкім жыцьцём Беларусаў Беласточчыны. Паводле нас гэта нармальны выяў татальнага ўзгадаваньня: маральная мізэрота, а не мярзота, як піша іншы наш чытач. Яны нават не ўсьведамляюць сабе, што зрабілі нешта амаральнае.

Ці ён быў, як пішаце, перакананы камуніст, ці толькі «камуніст» для карыстаньня з выгодаў, як піша ў вершы «Маю чатэры твары» — цяжка судзіць. Хіба можна паверыць, калі далей піша: «а калі людзі да дому адыдуць і болей маніць ня трэба, я проста дзіця, а не ідал, з тварам адным»...

Вось жа гэтае толькі пацьвярджае сказанае аб маральнай мізароце ўзгадаванцаў Камуністычнае сыстэмы. Ня іхная віна, а сыстэмы!

### ПАДЗЯКА

Адміністрацыя БГ перапрашае за нерэгулярныя справаздачы з атрыманых грошаў на наш Выдавецкі Фонд, што вынікла ў сувязі працяглых прабываньнях нашага Галоўнага ў шпіталях. У тым нумары даем кароткую справаздачу з атрыманых ахвяр ў $20 і выжей даляраў у цягу апошніх некалькі месяцаў:

М. Хмаранка ў сувязі з Саракагодзем часапісу — $1000 /тысяча/, Хмара — $125, Лунь — $112, Галейка — $112, Сладкоўскі — $100, В.Вір — $100, Ракуць — $85, Маркоўскі — $55, Мярляк — $50, Ганецкі — $39, Манькоўскі — $35, с-ня Люты — $20, Кухар — $20, а. Кулакоўскі — $20, Васількі — $20

Беларусам Таронта, Ватэрфорду, Вініпегу, Кальгары, Эдмантону, Ашавы, Місісагі, Этобіка і Гамільтону ў Канадзе, Нью Брансьвіку, Іст-Брансьвіку, Трэнтону, Чыкага, Нью Ёрку, Нью Гэвэн, Фэніксвілу, Нью Брытэн, Пітсбургу, Флюшынгу, Стамфорду, Вэніс, Самэрсэту, Піскатая, Монт Дора ў ЗША, Сыднэю і Мандара ў Аўстраліі і Брадфорду ў Англіі — шчырая падзяка за дасланыя ахвяры.

**Радакцыя**

### АБВЕСТКА

Мінулі дзесяцігодзьдзі з таго часу, калі Вы разьвіталіся з Бацькаўшчынай. Вашыя дзеці і ўнукі ведаюць пра яе толькі з аповядаў...

Рэклямнае агенцтва "Навіна" пры каапэратыве "Белагратэхніка" гатовае дакладна і ў тэрмін выканаць Вашыя прыватныя замовы на слайд-фільмы ды паліграфічна выдадзеныя альбомы пра Беларусь і пра Вашыя родныя мясьціны; на магнітафонныя і відэа-касэты з запісамі народных песьняў, звычаяў і сьвятаў; на беларускія сувеніры і кафлю (копіі вырабаў беларускіх цаніньнікаў 17--18 ст.). Мы бярэмся арганізаваць прыватныя вандроўкі па памятных для Вас месцах на Беларусі, Віленшчыне і Украіне.

Вы можаце таксама даведацца пра палітычнае жыцьцё Бацькаўшчыны, пра дзейнасьць грамадзкіх рухаў і згуртаваньняў, якія стаяць у цэнтры чацьвертага беларускага Адраджэньня, -- Беларускага Народнага Фронту і Канфэдэрацыі Беларускіх суполак, Таварыства Беларускай Мовы і Беларускага Экалягічнага Саюзу, Талакі і Тутэйшых.

Рэклямнае агенцтва "Навіна", каапэратыў "Белагратэхніка" прапануюць беларускім таварыствам і згуртаваньням у ЗША, Канадзе, Аўстраліі ды іншых краінах Вольнага Сьвету афармленьне інтэр'ераў грамадзка-культурных цэнтраў, арганізацыю падарожжаў на Беларусі, Віленшчыне і Украіне.

Рэклямнае агенцтва "Навіна" TELEX 252193 "KVARK SU"
Каапэратыў "Белагратэхніка"
БССР, Менск, вул.К.Маркса,5
Тэл. 224838